# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 1 (1703) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 1 СТУДЗЕНЯ 1989 г. ЦАНА 20 зл.




17 лістапада 1988 г. адбыліся асаблівыя хрысціны ў Дашах, што ў Кляшчэлеўскай гміне. Гэтая падзея наступіла ў мясцовай святліцы, якую 5 год таму назад дашане пабудавалі грамадскім пачынам і якая сталася месцам грамадскіх мерапрыемстваў і сямейных урачыстасцей.

Надвячоркам сабралася тут шмат гасцей. Гаспадары ўрачыстасці — аматарскі фальклорны калектыў — яшчэ ў старых касцюмах выйшаў на сцэну, упрыгожаную беларускім арнаментам. Прадстаўнік кляшчэлеўскага Дома культуры Славамір Місеюк прывітаў усіх прыбыўшых і расказаў аб мясцовых спявачках, якія святкуюць дзесятую гадавіну свайго спявання, і аб тым, што яны вырашылі сёння прыняць імя.

Гісторыя калектыву непасрэдна звязана з Беларускім таварыствам. Больш за дзесяць год таму назад штатны інструктар ГП БГКТ на Сямяціцкі раён Міхась Вішанка заахвоціў да ўдзелу ў конкурсе „Беларуская песня-78” Валянціну Міцэвіч і Зосю Кердалевіч. Памагаў ім рыхтавацца да конкурсу і другі штатны працаўнік ГП — Янка Крупа. Пасля да іх далучыліся іншыя жанчыны: Ніна Міцэвіч, Марыся Рашчэнка, Надзя Рашчэнка, Марыся Маркевіч, Марыся Такаюк і Вольга Селевановіч. Ад іх імя Валянціна Міцэвіч шчыра падзякавала ўспомненым інструктарам ГП і звярнулася з просьбаю да Прэзідыума ГП, каб іх калектыў далей быў пад апекай Міхася Вішанкі.



*„Каліна” ў новых касцюмах. Выступае начальнік Кляшчэлеўскай гміны Аляксандр Сяліцкі.*

На рахунку харавой групы з Дашоў шмат выступленняў на аглядах беларускай і савецкай песні, на розных урачыстасцях і фэстах, на большых і меншых сцэнах Беластоцкага ваяводства і па-за яго межамі. Адданасць беларускай, пераважна мясцовай фальклорнай песні, дасягнуты мастацкі ўзровень даюць ім права не быць далей безыменнымі. І пачаўся акт прысваення ім імя.

Прадстаўнік аддзела запісу актаў грамадзянскага стану паінфармавала, што прыбылі сюды ганаровыя апекуны (хросныя бацькі або кумы): Ніна Патэльская — прэзас ГСу і Аляксандр Сяліцкі — начальнік гміны. Да іх наблізілася ў афіцыяльным уніформе кіраўнік ЗАГСу Крыстына Каліноўская і папрасіла кумоў паўтараць за ёю урачыстае абяцанне: „Мы, ганаровыя апекуны фальклорнага калектыву ў Дашах, які паўстаў у 1978 годзе, даем урачыстую клятву, што прыкладзем патрэбныя старанні дзеля яго ўсебаковага мастацкага развіцця і даем яму імя „Каліна”.

Пасля кумы падпісалі акт урачыстага надання імя і ўручылі яго Вялянціне Міцэвіч — кіраўніку калектыву. Затым кум

(Працяг на стар. 6)

## ДА РОДНЫХ

Дарагія і родныя!

Мільёны год нястомна кружыцца Зямля. І вось невядомая сіла абярнула вакол восі зямную кулю і мы апынуліся напярэдадні Новага 1989 года. І так, як заўсёды, ставім сёння пытанне: якім будзе новы год? Што споўніцца, а што не споўніцца з нашых мараў. Якія з нашых планаў будуць рэалізаваны, а якія не? Ці пазбудземся сваіх хвароб? Ці ліквідуем свае клопаты? Зразумела, што будучае з'яўляецца адвечнай загадкай, якую разгадваем поўнасцю толькі тады, калі станецца яно мінулым.

Нельга толькі сумнявацца ў адным, а іменна ў тым, што ніводзін з нашых намераў і планаў, ніводная з нашых мараў не можа споўніцца без нашай актыўнасці, без нашай працы. Чалавек, які не робіць нічога, можа дачакацца толькі нічога. Актыўнасць, працавітасць, энергія — гэта тое, што можа здзейсніць нашы мары. Аднак будзе мець рацыю і той, хто скажа, што ў нашай краіне вынікі чалавечай працавітасці, заангажавання, ахвярнасці вельмі часта марнуюцца поўнасцю, або выкарыстоўваюцца ў мінімальнай ступені. А як жа часта выступае крыўдная з'ява, якая заключаецца ў тым, што добрасумленны чалавек жыве намнога горш, чым жулік і прайдоха. Зразумела, што такія з'явы не могуць уплываць на парадачных людзей мабілізуюча і твор-

(Працяг на стар. 8)

## КАЛІ ПАЧЫНАЕЦЦА НОВЫ ГОД?

Агульнапрынятыя ўмоўны пачатак гадавога часалічэння выпадае на дзень, калі ў прыродзе не адбываюцца ніякія рэзкія змены. Надалей зямля пакрытая снегам і зусім не ідзе на пацяпленне, але якраз наадварот — набліжаюцца „крашчэнскія” маразы. Ніхто нават і не думае аб палявых работах. Толькі па стадолах разглягаецца лупцаванне цапоў і стракатанне малатарняў. Не сядзець жа селяніну склаўшы рукі. Крыху ўсё гэта дзіўна — быццам і ёсць пачатак, але пачатку гэтага не адчуваецца. Для чалавека пачатак бывае тады, калі пачынае нешта дзеяцца. Асабліва селяніну, які, як ніхто, уважліва назіраў за прыродай і на аснове наступаючых у ёй рэгулярных перамен, будаваў свой аграрны каляндар. Як сёння памятаю, калі гадоў дваццаць-дваццаць пяць таму назад дзядуля мой паўтараў: „Сонце з сціны на пудлогу зыйшло і до сучка прыблiжаецця. Хутко в поле пуйдэмо”. Гэта азначала, што ішло на вясну. Ад гэтага часу ў нашай вёсцы ўсё пачало адбывацца ў арганізаваным парадку. Пачынаўся новы гаспадарчы год. Ажывала прырода, ад якой залежаў быт чалавека.

Выразныя змены, якія адбываліся ў прыродзе і іх рэгулярнасць дазволілі вылучыць у ёй чатыры цыклічныя перыяды: вясну, лета, восень і зіму. Хаця з захаваных спосабаў прадказвання пагоды можна дадумоўвацца, што ў далёкім мінулым нашыя продкі выдзялялі толькі дзве пары года, а менавіта: лета і зіму. Вясна, у сённяшнім разуменні, якая сваім прыходам ажыўляла зямлю, лічылася толькі пачаткам гаспадарчага гадавога цыкла.

Сёння пачатак вясны, лета, восені і зімы звязаны з канкрэтнымі датамі і каляндарнымі імёнамі святых. Але побач з гэтым захаваўся і колішні традыцыйны падзел. Для сербахарвата вясна пачынаецца та-

(Працяг на стар. 6)



# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 355


## НОВЫ ГОД

Зноў Новы Год крадзецца праз вароты,
Сняжынак рой нахлынуў на загоны.
У гэту ноч усе мы ў паваротах.
У гэту ноч, дык кожны з нас палонны.

— ✱ —

Зняволены былым і успамінам
Аб тым, што так даўно і так далёка,
Аб тым, што быў калісьці малым сынам
І што адплыў чаўном у свет шырокі.

— ✱ —

Сягоння блізка Бог, уздым сумлення
І пачуццё віны, ґрахоўныя распяцці
Ікона, ціша, маці на каленях
І Беларусь — адзінае багацце.

— ✱ —

Мы агаліліся духоўна страшна,
Таму дрыготкі сэрца агартаюць,
Шукайма сонцаў непагасных
Для адраджэння роднага у краі.

— ✱ —

Вось тут пад лёдам спеўная крыніца.
Чакае, як збавення, весніх промняў,
Ці здолеем свабоды мы дабіцца,
Ці вырвемся калі з каменяломняў?

— ✱ —

Хатыні мрояцца і Курапаты
У студзеньскім світанні сіня-шэрым
Спакой у Новым Годзе родным хатам
І сэрцам неспакой, якія вераць.

**Алесь Барскі**



*Мікола Давідзюк, Мольфар, 1982 г.*

— ✱ —

**не пытайце дарэмна
чаму
неба каменнае
крышыць душы
дзяцей
што спалоханай хваляй
ўсплывалі
над
разбітага
дома
купал
як заўжды
зямля вакол сонца
круціла адвечны піруэт
і здавалася
свет вечны
бясконцы
як міф пра адамавы эдэм
што для людзей
закрыты ад стварэння свету
за грэх пазнання
дабра і зла
падымалась сонца над блакітнай планетай
што дагэтуль не стлела да тла
ад удараў ядзерных
якія нетры раняць
крышачы пліт тэктанічных хрыбет
планеты нашай
бяздушна grabленай
напужанай
джаламі нацэленых ракет
і не затрымаць сляпога ўдару
зямлі
распятай на атамным крыжы
як не вярнуць забітых мараў
жыцця дзяцей
што пачыналі жыць
і чую я
канаўшых стогны
прыдушаных гурбой бетонных глыб
іх страх і боль
не заглушыць царкоўным звонам
іх учарашніх мараў
не забыць
надзеі
што вяла ў заўтра
разбітае
адным штуршком зямлі
раструшчанай вучнёўскай партай
пеклам ста дваццаці хвілін
і жудасна мне
кранунца бездны
цярпенне тых што асталіся жыць
не зразумець мне
логікі жалезнай
у нялюдскім
жорсткім
у чужым
о арарат
адвечны сімвал
гранітнай вытрымкі армян
няўжо ж ты мог чакаць бяссільна
каб морам слёз
напоўніўся севан.**

**Віктар Стахвюк**
**1988.12.10**



## ПЕСНІ

*Жывуць песні нязменна
У воблаках, ветры
і дрэвах,*

*У салаўіным спеве
І ў чмяліным гудзенні.*

*А ўсё ж не мала
жамчужын
Знікла са смерцю
бабуляў ..*

*Час новыя песні творыць
У пагоду і непагоду.*

*Слухаць і быць ім
верным,
Заварожыцца спевам.*

*Крупінкі золата — словы
Ззяюць, палоняць тугою.*

*Песні майго народа —
Несмяротная мова!*

**1979.01.12**
**Уладзімір Гайдук**

# ЛЯЛІК, ШВАЙКА І РЭШТА

Даў дождж. Сыпануў ад маянтковага парка, цубанячы па мястэчку за азярышчам. Даволі цёплы, хоць бралася на восень і начамі бывала ветрана. Прыжаўцелі вішні ў платах.

У гэтай старажытнай даліне заўсёды хтосьці гарыць на зыходзе лета. У багатую пару зоймецца стадола на Новай вуліцы або шугане агонь у чыёй сталярні ці дым паваліць ад шмараў у каторага слёсара... Гасіць прыязджаюць з — павятовага некалі — горада, бо шафёр тутэйшых пажарнікаў п'е. Возьме і павесіцца нехта стары (аднаго разу накінуў на сябе пятлю якісьці малады, але яго адратавала жонка, махнуўшы касою па вяроўцы).

Гэтак жа недарэчныя і гешэфты: хітрасці стае, а прыбытку, што кот наплакаў. Найбольш замагаюць шанцоўнікі. Ашуканствы іхныя дробязныя, нудныя. У павазе ў іх рыжы Швайка, які, праўда праўдаю, яшчэ не забіў ён каго ані зарэзаў... Швайка, аднак, гэта нішто Ляліку, з бэбахамі купіў бы яго.

Лялік той, калі пакажацца на рынку, дык тады, здаецца, мужчыны так і кіруюць, каб прайсціся каля яго і шапку перад ім скінуць! А яму, нават, як бы прыкра робіцца, пасміхаецца да іх усё роўна што сарамліва і, вымаючы папяросіну з зубоў, адкланьваецца шаноўным кіўком галавы, дастойны такі і без капялюха, чуб не аблез. „Дэфіляду прымае“, — зласліваць тыя, хто пакуль не пагарэў.

Нікагуткі не апрандуе затое Манька Вусатая. Яна — баба без мужыка і галышка, таму і герой! Іначай — села б у крэкадзь. Завядзіся з ёю, людзі засмяюць... Швайка, рыхтык ваўчуга, і ён сыходзіць ёй з вачэй; самога Ляліка не збаіцца Вусачыха. Не зачапай паскуды, ходзіць, дык няхай, калі і ты не шалёны.

Швайка старгаваў сыну мур у Беластоку. У Ляліка сватам міністр у Варшаве. Байструк жа Вусатай сеў у турму: раз'ехаў дзяўчыня, напіўшыся, матку павёз таксоўкаю на фэст, выраблюючы і рагочучы, каб усе бачылі, як для іх добра жывецца... І на табе! — — —

Жывуць тут людзі як бы часова, бы на нейкім этапе з ліхога ў добрае. Таму гэта ў мястэчку ўсё магчымае, акрамя сумленнасці, як у кожнае існаванне супроць волі. У гэтай спрадвечнай даліне з садамі не бываў рай. І наўрад, ці з'явіцца? А калі б і здарыўся, дык здзіўленне ад гэтага заскочыла б у пярэпалах, і тады аж паўжывыя ўцякалі б цэлы дзень лясамі на вялікі Беласток! Баючыся дарог, каб не азірацца за сябе.

Так было б, але не будзе.

**Сакрат Яновіч**

## НАША ПОШТА

### ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

20 лістапада 1988 г. у „Ніве" быў надрукаваны мой артыкул „Урокі змагання". На жаль, ён трохі заляжаўся ў рэдакцыйным партфелі. Таму адзін з фактаў састарэў, а менавіта, у верасні Гродзенскаму універсітэту нарэшце нададзена імя Янкі Купалы. Роўна дзесяць гадоў помнік песняру меў у сябе за плячыма навучальню, якая, ператварыўшыся з педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы ва універсітэт, зрабілася адначасна безназоўнай. Балючы і прыкры факт. Але ж нарэшце гістарычная справядлівасць аднаўлена і імя беларускага народнага песняра адгэтуль будзе шмат да чаго абавязваць навучальню.

У верасні 1988 г. я прыватным шляхам перадаваў папраўку да артыкула ў рэдакцыю, але напэўна яна туды не трапіла...

Што ж датычыць самой „Нівы", дык яна пакрысе пачынае заваёўваць Гародню. Налета ў горадзе падпісалася на газету 36 чалавек. Але гэтая лічба не паказальная, бо мала хто ведае „Ніву". Няма адпаведнае рэкламы. Сёлета, праўда, БЕЛТА распаўсюдзіла інфармацыю аб газеце, а ТАСС — аб XI З'ездзе БГКТ. Але дагэтуль назва газеты не фігуруе ў каталозе замежных выданняў „Саюздруку".

Разам з тым цешыць тое, што ад кастрычніка „Ніва" стала трапляе ў газетныя кіёскі Гродна. Каштуе нумар 20 капеек. Прадаецца пакуль 50 паасобнікаў і набыць яе цяжка. Дарэчы сказаць, калі ўпершыню я ўбачыў у кіёску сярод газет „Ніву", мяне як электрычнасцю працяло. Падобнае, прыгадваю, я адчуваў, калі наогул упершыню ўбачыў „Ніву" ва універсітэцкай бібліятэцы. Гэта было ў 1979 годзе: я нядаўна змяніў вайсковую форму на цывільнае і паступіў вучыцца ў Белдзяржуніверсітэт у Мінску. „Ніва" сталася адкрыццём цэлага свету, незнаёмага, надзвычай цікавага і прываблівага.

І апошняе. Ганарары за абодва свае артыкулы, надрукаваныя сёлета ў „Ніве" я прасіў пералічыць на рахунак беларускага музея ў Гайнаўцы, але не бачу чамусьці свайго прозвішча ў спісе ахвяравальнікаў...

**Сяргей Астраўцоў**, Гродна

**Ад рэдакцыі:** Ваш артыкул „Урокі змагання" надрукавалі мы пад гадавіну 65-годдзя КПЗБ, якая адзначалася ў нас, у Беластоку ў лістападзе 1988 г. Вашага лісту з папраўкай да артыкула не атрымалі. Ганарары перадалі ў Музейны фонд (гл. „Ніва" № 48, ад 27 лістапада 1988 г.).

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Цялушкі, гм. Нараў.*
*Мал. У. Петрука*

# АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК — АКТЫЎНАСЦЬ І ПАСТАЯНСТВА

### ГАВОРАЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

Яму 39 гадоў, нарадзіўся ён і жыве ў Відаве ў бацькоўскай хаце, сам адзін. Бацькі даўно памерлі.

— Пачатак вашага супрацоўніцтва з „Нівай"?

— Першая інфармацыя паявілася дзесьці летам 1967 г., а раней паслаў гумар і рысункі. Рэдакцыя аднак адказала: „Лепш смейцеся з гумару, які прапануе рэдакцыя, а дасылайце інфармацыі пра жыццё вёскі". І гэтак пачаў я пісаць пра людзей, пра недахопы, марнатраўства, занядбанні.

— На якой мове?

— На польскай пачаў. Некалькі такіх інфармацый выслаў, потым перайшоў на рускую мову. Спытаўся неяк у рэдакцыі, ці добра пішу. Сказалі, што добра, але было б лепш, каб па-беларуску. Тады я здабыў слоўнік, праўду кажучы, яго мне падаравала Люда Асеннік, якая толькі закончыла беларускі ліцэй у Бельску. Я нават хацеў ёй заплаціць, але яна, даведаўшыся, што я хачу пісаць па-беларуску, сказала: „Я табе яго дарую". Мне спадабалася беларуская літаратурная мова. А так, як я ў школе добра вывучаў рускую, літары ведаў і пераход на беларускую пайшоў у мяне даволі спраўна.

— Памятаю, што вы адразу праявілі сябе як карэспандэнт тыпова „тэрэновы". Вас цікавіла абсалютна ўсё навокал і аб усім вы пісалі. Так, зрэшты, робіце дагэтуль. Адкуль у вас такое?

— Я не люблю, калі хто крыўдзіць беларусаў. У нас выступалі недахопы ў жыцці вёскі. Былі не зроблены, не закончаны розныя справы. Калі я іх паказаў у газеце, яны набіралі значэння, зварухнуліся.

— Вы памагалі, значыць, уладжваць розныя справы, апісваючы іх на старонках „Нівы".

— Памагаў. Некаторыя справы пайшлі ўперад і былі вырашаны на карысць грамадства.

— Ці людзі ў вашай вёсцы цікавіліся, пра што вы пішаце?

— Так! Гаварылі: "Што там Андрэй напісаў". І куплялі „Ніву" ў клубе. Але цяпер няма клуба ў вёсцы, то людзі купляюць „Ніву" ў Бельску. Гэта блізка ад Відава, нават гарадскі аўтобус даходзіць да нас. Ёсць пастаянныя, шматгадовыя чытачы „Нівы" ў Відаве, напрыклад, Іван Себясевіч, Анна Каліновіч і яе сын Мікалай, Федзя Гаўрылюк, кум Мікалая. Іван Себясевіч дык, бывае, кіне працу і трактарам паедзе ў Бельск па „Ніву". Ён мяне падтрымлівае ў маім пісанні „Ніве": „Ты, Андрэй, пішы", — кажа.

— Хто ў вас больш чытае „Ніву": маладыя ці старэйшыя?

— Старэйшыя. Маладыя не надта горнуцца да чытання. Але і яны цікавяцца час ад часу „Нівай".

— Вы ў свой час многа пісалі пра Бельск, пра гарадскія ўстановы.

— Гэта лічу сваім вялікім дасягненнем. Я пазнаёміўся пры гэтым апісанні Бельска з выдатнымі людзьмі горада. Паставіў сабе заданне расказаць пра іх чытачам „Нівы", расказаць пра працу ўстаноў, пра розныя праблемы, якія ў гэтым горадзе выступаюць.

— А што асабіста вам дало пісанне ў „Ніву"?

— Я паглыбіў свае веды, чытаю беларускіх пісьменнікаў, даўнейшых і сучасных, знаю, што я — беларус, а не якісьці там „тутэйшы" ці іншы. Дзе не зайду, дзе не акажуся, я ўсюды гавару, што я — беларус. Я — свядомы беларус!

— Нам вядома, што і ў санаторыях, куды вы часта ездзіце на лячэнне, вы і там дэманструеце сваю беларускасць.

— Так, і там заўсёды я расказваю пра беларусаў, чытаю „Ніву", якой некалькі экземпляраў заўсёды з сабой завожу. І ведаеце, як людзі цікавяцца ўсім гэтым? Яны мне нават скардзяцца: чаму польская прэса пра гэта не піша. Я ім раю чытаць беларускія газеты, хоць бы ў клубах МПіК.

— З варожасцю не сустракаліся?

— Не, я з такімі аднасінамі нідзе не сустрэўся. Гэта толькі нашы пярэхрысты, украінскія ці польскія так адносяцца.

— Вы — хлопец з вёскі, самотнік, ці не бывае вам сумна?

— Я калісьці любіў выпіць. Але калі звязаўся з „Нівай", я адразу адкінуў гарэлку. Потым пазнаёміўся з Рудкоўскім, пачаў разам з ім вандраваць па Беласточчыне, назіраць і вывучаць прыроду. У мяне няма часу займацца гарэлкай, столькі навокал цікавага і кожны можа так многа добрага і карыснага зрабіць на гэтай ніве. Я шчаслівы, што гэта зразумеў.

— Аснова вашай супольнай з Рудкоўскім дзейнасці...

— Тэ ахова прыроды.

— Чаго дабіваецеся?

— Мы назіраем і вывучаем родную прыроду, розныя з'явы ў ёй. Мы хочам, каб старых дрэў, па 200—300 гадоў, не нішчылі, не рабілі пустэчы. А планісты нашы ўсё спрытна гатовы пусціць пад сякеру. Яны нічога не бачаць на месцах, а толькі седзячы за сталамі, плануюць... знішчэнне. Ужо прыходзіць да таго, што і самі сябе зараз знішчым. Бо што ж мы значым без лесу, без рэчкі? Дрэвы сохнуць, рэчкі высыхаюць. А фабрыкі не робяць фільтраў і выпускаюць заразу ў паветра. Ёсць нават такія, што, маючы фільтры, нанач іх здымаюць і ўсё выпускаюць у прыроду. Гэта, каб людзі не бачылі і ніхто не скантраляваў. Я чуў, што так робяць у Гайнаўцы і ў Беластоку.

— Ці можаце назваць нам вынікі вашай з Рудкоўскім дзейнасці па ахове прыроды?

— Зрабілі спісак дрэў-помнікаў прыроды, правялі доследы рэчак Белай, Арлянкі. А пачалося ад Грабіны — групы дубоў векавечных каля Відава. Цяпер іх тры. Выдатны помнік прыроды. Па нашай з Рудкоўскім інтэрвенцыі Грабіна была ўведзена ў спісак помнікаў прыроды Беласточчыны. Ёсць і краёвы спісак помнікаў прыроды. І ў ім ёсць і мая Грабіна. А яшчэ і вяз у Бельску (каля дома культуры), вяз на Траўгута каля Цэпэліі, дуб на вуліцы Школьнай, ну і горка ў Гацьках, дзе жывуць ластаўкі - беражанкі. Горка ў Гацьках, дзякуючы Рудкоўскаму, яго доследам і тапаграфічным памерам, ужо стала запаведнікам прыроды.

— Вы арганізавалі ў Бельску пры ПТТК групу аховы прыро-

 




У артыкуле „Справа Беларускага музея“ („Ніва“ ад 27 лістапада 1988 г.) Алесь Барскі закрануў справу ахвяраванняў нашых суайчыннікаў са ЗША. Асабліва зацікавіла мяне размова з п. Алюньцяй Р. з Нью-Йорка. Сябра А. Барскі вельмі трапна выказаўся пра дзейнасць КПЗБ, „Грамады“ ды Таварыства беларускай школы.

Сваю заўвагу я накіроўваю да п. Алюньці Р. Дзеячы КПЗБ нікому Радзімы не адНялі. Не можна да іх мець жалю. Яны змагаліся за тое, каб беларус меў права не толькі да плуга, але і да школы, культуры і нейкіх пасад ва ўстановах. За сваю высакародную дзейнасць яны моцна адпакутавалі. На іх звалілася бяда з двух бакоў. Ды мала хто з іх уцалеў. Мне асабіста, як інжынеру, давялося працаваць пад іх кіраўніцтвам ужо пасля II сусветнай вайны. Гэта былі цудоўныя людзі!.. Добрыя беларусы ды кіраўнікі. Але іх хутка, бо ледзь у 50 гадоў, пад маркай „адмаладджэння кадраў“, адаслалі на пенсію. Жаль мне іх. Моцны жаль. Вельмі мала іх асталося. На камунальных могілках, дзе іх пахавалі, няма нават надпісаў на роднай беларускай мове. Таму я ўважаю, што іхняй памяці месца належыцца ў Беларускім музеі. Грамадскасць нашых суайчыннікаў за мяжой павінна абмеркаваць гэту справу. Ахвярадаўства ад вас на Музей неабходнае.

Трэба ведаць, што КПЗБ ні ў чым не вінавата. Ад вас, у тым ліку і ад мяне, Радзіму забралі іншыя сілы. Над імі цяпер ідзе суд гісторыі.

**Інж. Б. Ф. Рудкоўскін**

---

ды на чале з Барыславам Рудкоўскім. Многа вас там?

— 12 членаў, актыўных. Акрамя Рудкоўскага і мяне яшчэ Эля Бэзюк і Коля Фёнік — абое са слаўнага „Парнаса“, яшчэ Ян Кшыжак з тэлекамунікацыі, Алесь Мятэльскі — міліцыянер на пенсіі, Росцік Анацэвіч — кіраўнік аддзела ПТТК. З Р. Анацэвічам мы зрабілі ў мінулым годзе акцыю „Чысты лес“ у Піліцкім лесе.

— Вы любіце многа вандраваць па нашай Беласточчыне. Якая яна, наша зямля?



— Зямля наша прыгожая, цудоўная! Зялёная яшчэ! Яшчэ дыхае свежым паветрам. Гэта наша здароўе.

— А людзі? Культура?

— Старэйшыя яшчэ трымаюцца даўнешых абрадаў і звычаяў. Жанчыны, асабліва па 40—50 гадоў, вельмі моцныя ў сваёй традыцыі. І ўсё робяць вельмі цікава. Я многа езджу па „одпустах“, бачу, што яшчэ не гіне наша культура і думаю, не загіне яна, пакуль ёсць праваслаўе.

— Ці памятаеце, колькі вы апублікавалі сваіх матэрыялаў?

— Я ў хаце вяду дакладную статыстыку. Цяпер не помню, недзе больш пяцісота.

— Доўга будзеце карэспандэнтам?

— Пакуль дам рады трымаць пяро ў руках. А нават яшчэ і на насілках, як будуць мяне несці, я ўсё апішу і вышлю „Ніве“.

— Вы далі багаты дар для Беларускага музея.

— Гэта больш двух дзесяткаў вельмі цікавых экспанатаў матэрыяльнай культуры. Гэта ўсё спадчына па маіх бацьках. Усе прылады іх працы. Бацька сам некаторыя з іх зрабіў, напрыклад, прылады для капання торфу. Усё я адаў бясплатна. За экспанатамі такімі трэба глядзець. Там, у музеі, іх пакансервуюць і няхай маладыя вучацца і ведаюць, як жылі і працавалі іх продкі-беларусы.

**Вера Валкавыцкая**

## ПАЖАДАННІ ПІШЫЦЕ ПА-БЕЛАРУСКУ

Святы, святы. Новы год. Шлём пажаданні здароўя і шчасця блізкім і знаёмым. Па-якому пішам?

Я для прыкладу падаю адны навагоднія пажаданні, напісаныя па-беларуску, дакладна так, як іх тут прыводжу. Я іх перапісала з паштоўкі, павешанай на сцяне ў кабінеце аднаго чалавека (дзе-хто можа і здагадаецца, каму адрасаваны былі). Вось тэкст пажаданняў для ўзору!

„У наступаючым... (упісаны год) годзе жадаю Вам, каб адступілі маразы, каб пад вялізнымі вусамі часта госцем была ўсмешка, каб не было праблем. Сонца хай свеціць кожнага дня, хай сняцца цудоўныя сны і жывецца шчасліва“. Тут подпіс — імя (зразумела, бо хто ж бы іншы).

Давайце ж тады па гэтаму ўзору і мы напішам пажаданні па-беларуску сваім блізкім і знаёмым. **(вв)**

# САКРАТ ЯНОВІЧ
# У БЕЛАРУСКАЙ КАНАДЗЕ І ДАЛЕЙ

(8)

Прывёз я касету з камерным канцэртам Баляслава і Галены Лішчонкаў „Беларускія песні і танцы“, з пазнакаю Made in Canada. Тавар прыгожы, але змест яго на ўзроўні вельмі ж самадзейным. Гэта не крытыка, але адкрыццё з'явы, да якой нам, у сябе, пакуль што няблізка. Маю на думцы рынак беларускай культуры. Адным з нашых нацыянальных няшчасцяў — гэта тое, што мы не прызвычаіліся плаціць добрыя грошы за сваё. Бы тая паршывая сабака, валачэцца за намі прывід бязвартаснасці ўласнага. Гэта ж ад паншчыны, ад халопскага нявольніцтва. Іронія гісторыі: ненавідзелі паноў і фабрыкантаў і, разам з тым, пераНялі іхны бляск, ацэнкі. І погляд на Беларусь. Эксплуататары працоўных, так сказаць, помсцяць нам з таго свету ды пацяшаюцца „в небесех“: здзяйсняюцца іх мары, каб беларусы зніклі з паверхні зямлі. Бязбольна, без дэманстрацыяў пратэсту ды паўстанняў. Цемната ды глухамань выратоўвалі бацькоў і дзядоў ад дэнацыяналізацыі не даўжэй, чымсьці ўсёахопліваючы прагрэс пацерпліваў існаванне нас як энклава адсталасці. Пры чым „з гразі ў князі“ не даецца без самаапляўвання.

Падарылі мне „Матчын дар і іншыя творы — Mother's Gift and other writings“ Алеся Гаруна. Кніжку, якую год назад канфіскавалі б на граніцы як недазволеную. Прарока, якога імя дарма шукаць у шамякінаўскай „Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі“. Катаржніка, якому нават царская цэнзура не бараніла публікавацца. І ў ленінскі бальшавізм не дадумаліся выкрэсліваць з культуры яе творцаў, інтэлігентна разумеючы, што гэта быў бы абсурд і катастрофа. Слупянею ад звесткі, што ў „чырвонай“ Маскве выходзілі мемуары „белых“ генералаў. Контррэвалюцыя ад гэтага не памацнела. У сталінізм заціснулі слова. Хто мае рацыю, той не б'е ў морду. Не затыкае рот другому.

Адлучыўся на „ўікэнд“ з польскай фірмы Сціў (Сцяпан) Прахарук, зубавец і паплечнік ляўкоўца Шаршуновіча ў закладванні Таварыства „Беларусь“. Тыповы тэхнік, негаваркі. — Каб грамадска дзейнічаць, не трэба пытаць пра згоду ў аніякіх уладаў, але і дапамогі ад іх не чакай. Спадзявайся на сваю кішэнь і тых, каго здолееш заахвоціць да справы. Казённая служба ідзе на руку, не абкладаючы падаткамі за фінансавыя абароты. Каб не тое, дык — прыблізна — з кожным трэцім арганізацыйным доларам было б: аддай дзяржаве.

Рупіць закурыць. Сюды-туды зіркаем: барацьба з нікатынам у апагеі, сцены ўлепленыя шыльдачкамі No smoking. Не схаваешся і ў туалет. Хоць ты ў поле едзь! Папяросы — гатунковыя, не махорыстыя. Праховіч як участаваў польскімі канадскага супрацоўніка, дык з яго мала духі не павылазілі, насілу апрытомнеў! За пачак найлепшых заплаціш амаль столькі, што за паўлітроўку. І ў алкаголях няма паскудства, дэнатурнасці. Папіваюць у абед і ў вячэру, але не здараецца, каб хто наліў сабе горла. Гарэлку трактуюць не як атрыбут свята. Стаіць яна батарэямі размаітых бутэлек у хатнім барыку; наш радзімы п'яніца памёр бы ад радасці! У нас здурнець і ўпіцца — чэсць і гонар. А ў іх — кампраметацыя!

Жыццё настолькі іншае, цалкам падпарадкаванае працавітасці, што падбеластоцкую моладзь адразу яно прынаджвае. Неспакойна мне: што будзе з нашым тут краем, калі ўсенькі актыўны ў ім элемент знойдзе будучыню для сябе за Атлантыкаю?! Меў сон: на падрабязную карту Канады наносілі Гайнаўку ля возера Вініпег, Бельск каля Эдмантан, Кляшчэлі ў акрузе Калгары, а Гудзонаў заліў абселі — Орля, Нараўка, Гарадок, Крынкі, Саколка, Белавежа... Парламент прыняў пастанову аб далучэнні беларускай мовы да ліку афіцыйных. І ў гэты трагічна-камічны момант я прачнуўся. У поначным заваконні шапацеў спорны дождж, ртуць у градусніку ўзнялася да дваццаці, фасфарызаваны гадзіннік высвечваў дату трынаццатага верасня.

Каб аддыхацца, уключаю прыпасцельную лямпачку і бяруся за „Слова пра паход Ігаравы“ ў мастацкай апрацоўцы Рыгора Барадуліна на сучасную мову ды з уступам „ніваўца“ Міколы Гайдука. Урэшце прыбраўся! І не пашкадаваў гэтага: славуты літаратурны помнік славянскага ўсходу мае беларускі радавод! Так выказваўся яшчэ Сыракомля. Затым — даследнік старабеларускай пісьмовасці праф. Мікола Янчук; з засямяціцкага ён Пабужжа. Гайдук падае: „... не выпадкова ў „Слове“ цэнтральнае месца займае Полацкае княства і яго князі — гэта ж вялікі князь літоўскі Міндоўг свой род выводзіў з княскай дынастыі Рагвалодавічаў і яго продкам лічыўся легендарны князь полацкі Усяслаў! Прытым варта адзначыць, што многія рысы ў вобразе Усяслава нагадваюць асобу Міндоўга...“

З раніцы — з уладыкам Мікалаем — у мегаполісе Таронта, з канца ў канец якога каля сотні кіламетраў. Пацягнула мяне, як на бяду, у публічную бібліятэку; — Вольгі Іпатавай „Перакат“ (сама яна рускай нацыянальнасці), два тамы „Бібліятэкі беларускай прозы“, Якуба Коласа „У палескай глушы“, выданні Кастуся Акулы, Уладзіміра Карпава... Дарункі, дваццаць дзве штукі. Так сказаць, лічбавы паказчык тэмпературы патрыятызму і — з дазволу сказаць — дбайнасці. Сірочая чародка на бясконцых паліцах.

(Працяг будзе)



 

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



# Этнаграфічны гурток беларускай „тройкі"

Вучні сёмага і восьмага класаў Падставовай школы № 3 належаць да этнаграфічнага гуртка. Вядзе яго настаўніца беларускай мовы Марыя Базылюк (на здымку — прысела ўглыбіні). Вучні паказваюць вельмі старыя сарочкі, абрусы, якія яны прывезлі са сваіх этнаграфічных паездак. Некаторыя экспанаты былі ім падараны, іншыя былі пазычаны.

Гурток працуе ўжо другі год. Але ўжо і першы іх год працы быў багаты. Ездзілі па вёсках — вывучалі іх усебакова. Былі ў Доўгім Бродзе, Арэшкаве, Кленіках, Мокрым, Гацьках і Рыбалах. У Рыбалах сустрэліся з бацюшкам Рыгорам Сасной, які расказаў ім пра гісторыю праваслаўя на Беласточчыне. У Гацьках даследавалі і фатаграфавалі хаты з арнаментам з дваццатых-трыццатых гадоў нашага стагоддзя, цікавую архітэктуру. Дзеці маюць падрыхтаваны альбом, а ў ім прабуюць параўноўваць архітэктуру паасобных вёсак, напрыклад, Мокрае з Гацькамі.

Народная вышыўка — гэта вялікае багацце нашае. Якія колеры і матывы, якія ўзоры тут выступаюць. Дзяўчаткі перарысоўвалі ўзоры, рабілі навет на іх падставе сценгазетку.

У Кленіках члены гуртка размаўлялі са старой 80-гадовай бабуляй пра былое.

— Я хачу, — кажа настаўніца, — каб яны слухалі і вывучалі мясцовыя гаворкі. Хочам рабіць карту Беласточчыны, дзе былі б паказаны найцікавейшыя рысы гаворак Бельшчыны і Гайнаўшчыны. Дзеці вельмі адкрытыя, цікавяцца светам.

Любяць дзеці калядаваць. У мінулым годзе добра падрыхтаваліся, і 12 чалавек хадзіла калядаваць па ўсім Бельску.

— І я хадзіла з імі калядаваць, — кажа Марыя Базылюк. — Людзі вельмі сардэчна прымалі, запрашалі ў хаты, частавалі. І прасілі прыходзіць за год.

Гурток працуе над вывучэннем роднай гісторыі. Яны чытаюць розныя матэрыялы па гісторыі беларускага народа, дыскутуюць.

Усё, што гурток рабіў у мінулым годзе, робіць і сёлета. Гэта вялікае вучнёўскае даследаванне роднай зямлі. Верым, што іх навуковая праца прынясе ўсім нам добры плён.

Вера Валкавыцкая
Фота Я. Чэрнякевіч

Алесь Якімовіч

# ПАД НОВЫ ГОД

Бацька і маці пайшлі да знаёмых у госці, а Віця застаўся дома.

Пакруціўшыся нейкі час па хаце, ён не знайшоў сабе цікавых заняткаў і зашыўся пад цёплую коўдру. Гэта было самае лепшае, што можна прыдумаць у такім незайздросным становішчы.

... Неўзабаве пачуўся стук у дзверы. Уставаць не хацелася, і Віця толькі павярнуўся на другі бок ды захроп яшчэ саладзей. Але стук паўтарыўся зноў — на гэты раз ужо моцны і настойлівы.

— Хто там? — нехаця запытаўся Віця.

— Адчыні! — адказаў жаночы голас.

„Мусіць, маці вярнулася, — падумаў ён. — Трэба ўставаць".

Калі Віця адчыніў дзверы, перад ім раптам замест маці апынуліся тры незнаёмыя жанчыны: адна старая, бабуля на выгляд, другая сярэдніх гадоў, круглая, як школьны глобус, і трэцяя — маладая, высокая...

Віця крыху збянтэжыўся.

— Хто вы такія і што вам трэба? — запытаўся ён нясмела.

— А хіба ж ты нас не пазнаеш? — тонкім трымцячым голасам прашапялявіла бабуля ў доўгай цёмнай сукенцы, густа ўсыпанай узорамі з ромбаў, кубаў, трапецый і кружочкаў...

— Не... — паківаў віхрастым чубам Віця. — Не пазнаю... Вы, напэўна, да мамы прыйшлі? Дык яе няма дома — яна з татам у гасцях...

— Шкада, што ты не пазнаеш нас! — на поўныя грудзі ўздыхнула жанчына, падобная на глобус. Сукенка яе, здавалася, аж гарэла незвычайна яркімі колерамі — зялёным, сінім, чырвоным...

— Вельмі шкада! — звонкім, але прыемным голасам прагаварыла высокая маладая жанчына ў блакітнай шаўковай сукенцы, з ручкай-самапіскай у бакавой кішэньцы. — Мы цябе добра ведаем. Вельмі добра.

Віця пачырванеў ад няёмкасці і далікатна прапанаваў:

— Дык, калі ласка, праходзьце далей...

(Працяг на стар. 10)

Эдзі Агняцвет

# З НОВЫМ ГОДАМ!

Мы ішлі прасторамі,
Белымі і зорнымі,
Між сасонак гонкіх
І бярозак звонкіх.
Ёлка наваголняя,
Родная, прыродная
Ззяе на паляне,
Як само світанне.

Вось яна прыбраная
Ў дзівы саматканыя!
Ёлка — гаспадыня
Пушчы светла-сіняй.
Тут сняті блакітныя,
Сонейкам спавітыя.
Непатрэбна вата
Для такога свята!

Як сябры вітаюцца,
Рэха адгукаецца.
— З новым, шчасным годам,
З дружным карагодам!
Госці незвычайныя,
Фарбы разнастайныя!
І на розных мовах
Лес пяе зімовы.

А паветра чыстае,
Свежае, іскрыстае —
Над красой-ялінай,
Над усёй краінай.
— З месяцам і зоркамі,
З новымі пацёркамі,
З новымі дарамі,
З добрымі сябрамі!

Іосіф Васілеўскі

# БЕЛАЯ АЎЧЫНА

Дзед, зайшоўшы ў хату, скінуў
З плеч кажух,
І рукі трэ.
І бурчыць: пасевы згінуць —
Мала снегу на двары.

— Снег халодны,
Ад марозу
Як ён можа зберагчы?
Снег —
Марозу не пагроза:
Між сабой —
Браты, лічы...

— Я ж кажу вам —
Снег гарачы, —
Дзед бурчыць,
Нібы злуе.
А ў вачах —
Хітрынкі скачуць,
А з вачэй —
Праменьчык б'е!

— Што шчабечаце, сарокі?
Ну-тка мігам да дзвярэй!
— Дык у нас замерзлі шчокі...
— Снегам трыце іх скарэй!
Шчокі дружна расціралі —
Змерзлі ўшчэнт —
Якія ўжо смех!
А пасля яны пылалі:
— Сапраўды,
Гарачы снег!

Дзед смяецца:
— Малайчыны!
Ясна вам,
Ды без маны? —
Снег, як цёплая аўчына,
Грэе ўсходы
Да вясны.

Пераклаў з рускай М. Чарняўскі

# ПАД НОВЫ ГОД

(Працяг са стар. 9)

Жанчыны спаважна ўвайшлі ў пакой.

Віця замітусіўся, сабраў крэслы і запрасіў гасцей сесці. Сам ён таксама сеў насупраць, крадком разглядаючы жанчын.

„Не, дзіўныя нейкія, незнаёмыя!“ — парашыў ён.

— Цябе завуць Віця? — раптам спыталася самая старэйшая і строга зірнула на яго сваімі круглымі вачыма, падобнымі на нулі.

— Ага, — матнуў галавою здзіўлены Віця.

— Ты вучышся ў чацвёртым класе?

Віця зноў матнуў галавою.

— І ты зарабіў за першае паўгоддзе па майму прадмету двойку? — усё гэтак жа строга дапытвалася яна.

— Не, — адказаў Віця. — У мяне двойкі толькі па арыфметыцы і геаграфіі. Але ж вы не выкладаеце ніводнага з гэтых прадметаў...

— Я не магу выкладаць, — сярдзіта перапыніла яго старая, — бо я сама і ёсць прадмет!

Пры гэтым яна падняла ўгору свой сухі ўказальны палец, падобны на адзінку, і дадала:

— Мяне завуць — Матэматыка!

Віця ўвагнуў плечы і скурчыўся: ён толькі цяпер пазнаў, што перад ім была самая сапраўдная Матэматыка — строгая, дакладная, патрабавальная.

— Выбачайце, — замармытаў ён не сваім голасам. — Я не пазнаў вас...

— Тады будзем знаёмыя! — працягнула яму руку тая з іх, што была падобнай на глобус. — Я — Геаграфія!

— А я — Гісторыя! — адрэкамендавала сябе яе маладая сяброўка. — Праўда, па майму прадмету ты маеш тройку. Але хіба ж гэта адзнака! Я моцна пакрыўджана...

— Мне страшэнна непрыемна, — сказала Матэматыка, — што ты зусім не паважаеш мяне, старую...

— Ды і нас таксама не паважаеш! — падхапілі дзве другія жанчыны — Гісторыя і Геаграфія.

— Я, напрыклад, — працягвала бабуля, — дачулася, што ты марыш стаць лётчыкам. Скажу табе горкую праўду: без мяне не быць табе лётчыкам!

— Чаму? — спалохаўся Віця.

— А вельмі проста: уся лётная справа — гэта чыстая матэматыка.

— А без мяне, — дадала Геаграфія, — ты і кроку не ступіш. А табе ж давядзецца лятаць за тысячы кіламетраў — у іншыя шыроты і даўготы, у новыя гарады, пакуль ты станеш лётчыкам. Не ведаючы мяне, ты заблудзішся на першым жа кіламетры.

— Тое ж самае і я, — перапыніла яе Гісторыя. — Без мяне ты не станеш лётчыкам ужо хоць бы таму, што не будзеш ведаць гісторыі лётнай справы.

Віця круціўся на крэсле, як вуюн на гарачай патэльні. Ад сораму ён не ведаў, дзе падзець вочы. На ілбе выступіў буйны пот.

„Хоць бы ўцячы як-небудзь ад іх“, — падумаў ён.

Нарэшце Віця парашыў схітрыць.

— Я на хвілінку, — сказаў ён і выйшаў з пакоя. Схапіўшы шапку, ён рынуўся да дзвярэй.

Але толькі адчыніў іх, як на парозе перад ім з'явіўся чырванашчокі хлапец у абсыпаным снегам пушыстым кажушку.

— Будзем знаёмы, — сказаў хлапец. — Я — Новы год!

— О-о! — раптам павесялеў Віця. — Вельмі рад!

— Давай будзем дружыць.

І Новы год працягнуў яму руку на дружбу.

— Давай! — ахвотна згадзіўся Віця. — Ты толькі не слухай вунь тых жанчын, што сядзяць у пакоі. Яны могуць нагаварыць пра мяне шмат чаго благога. Не слухай, брат...

— А я і без іх усё ведаю, — хітра ўсміхнуўся Новы год.

— Адкуль? — ледзь не ўпаў Віця ад такой неспадзяванкі.

— Ды мне, брат, пра цябе ўсё Стары год расказаў. Але я такі чалавек — хачу ўсё сам убачыць і праверыць.

— І добра робіш! — аж закрычаў Віця ад радасці. — Ты хутка ўбачыш, што ў мяне няма ніводнай двойкі...

Тут Віця прахапіўся ад уласнага крыку і адразу ж пачуў, як нехта моцна забарабаніў у дзверы.

— Зараз, зараз! — адказаў ён, праціраючы вочы.

Праз хвіліну ў пакой увайшлі бацька і маці.

— З Новым годам! — павіншавалі яны Віцю. — З новым шчасцем!

## ПАЗНАЁМІМСЯ

— ✻ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Волаха, 3, к. 2, кв. 16. Аксана Еліна. 4 клас.

— ✻ —

БССР, 220093, г. Мінск — 93, вул. Д. Сердзіча, 54, кв. 37. Оля Сіманава. 4 клас.

— ✻ —

БССР, 220093, г. Мінск — 93, вул. Д. Сердзіча, 54, кв. 30. Юля Рылькова. 5 клас.

— ✻ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Каржа, 14, кв. 9. Іра Казлоўская. 3 клас.

— ✻ —

БССР, 220025, г. Мінск — 25, вул. Ясеніна, 18, кв. 11. Юля Кляменка. 4 клас.

— ✻ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Каржа, 14, кв. 30. Насця Дземчанкава. 3 клас.

— ✻ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. К. Лібкнехта, 86, к. 1, кв. 33. Оля Крук. 3 клас.

— ✻ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. К. Лібкнехта, 86, к. 1, кв. 60. Света Касімовіч. 4 клас.

— ✻ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36. 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 35. Ірына Клімантовіч. 10 клас.



## Пішуць школьнікі

### МІЛАЯ „ЗОРАЧКА“!

Піша Табе шасцікласнік Падставовай школы ў Грабаўцы. У нашым класе ёсць дзве дзяўчынкі і чатыры хлопцы. Некаторыя з нас вучацца добра, а некаторыя і кепска, але ўсе вывучаюць беларускую мову.

Летам мы прыходзілі памагаць рамантаваць старую школу. Мы вучымся ў вялікай школе. У ёй ёсць чатыры класы. Вучымся разам з сёмым класам. Мой найлепшы сябар — Андрэй Леанюк. Я і Івона Хмель даязджаем у школу аўтобусам з Елянкі. На ўроках беларускай мовы чытаем „Зорку“ і „Ніву“. Вучыць нас беларускай мовы настаўніца Аліна Новік.

**Юрка Клімюк, Грабавец**

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, „ЗОРКА“!

Піша Табе Мірка, вучаніца шостага класа. Мне хочацца напісаць Табе, як я правяла канікулы. Я пазнаёмілася з Аленай з БССР. Яна была ў групе дзяцей, якія прыязджалі да нас адпачываць. Мы ездзілі на экскурсіі — і на заліў, і ў Белавежу. У той жа час былі ў нас дзяўчынкі з Бельска Магда, Анка, а з Дубін — Аліна, Бася. Хлопчыкаў было два — з Бельска Рафал і Андрэй. Вельмі весела тады было.

„Зорка“, падай, калі ласка, мой адрас у куточку „Пазнаёмімся“. Хачу перапісвацца з кім-небудзь з аднагодкаў.

**Мірка Барташук, 6 клас, вёска Грабавец, 67. 17-204 Дубічы-Царкоўныя.**

## Вучнёўская творчасць

*Вучні чацвёртага класа са школы ў Нарве прыслалі вершы найлепшых паэтаў свайго класа з просьбай надрукаваць у „Зорцы“. Выконваем іх просьбу.*

### СЯБРЫ

У нашым класе сяброў многа:
Бася, Кася, Марта, Ася.
Яны мае сябры.
Неяк
Ішла Ася.
Застаў яе дождж
На двары.
Убачыла гэта Бася —
З парасонам прыбегла
Тады.

**Кася Асташкевіч**

### ЛІСТОК

Быў лісток
Белы, чысты.
Узяў яго Міша,
Напісаў некалькі слоў.
І лісток той
Стаў пісьмом.

**Ася Янушкевіч**

### ВУЛІЦА

Прыгожая, вялікая, шырокая.
Ішоў дарогай Віця —
Кінуў адну паперку.
Ішоў дарогай Грыша —
Кінуў другую паперку.
Ішлі яго сябры —
І паперкі кідалі...
Прыгожая, вялікая вуліца
Стала сметнікам.

**Ася Янушкевіч**



Палямі, лясамі ідзе да нас вельмі паважаны Дзед Мароз. Нясе за плячыма мяшок, поўны падарункаў. Каму што належыцца, тое і атрымае. Размалюйце карцінку каляровымі алоўкамі. У каго прыгажэй атрымалася?



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1 „Зорка“

